*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 38(94) ◈ 23 верасня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

**У ЧАСЕ ВІЗІТУ Ў ФРГ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ФРГ КЛАЎС КІНКЕЛЬ ПАДКРЭСЛІЎ ВЯЛІКУЮ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ ГЕРМАНІІ Ў РАЗВІЦЦІ ДВУХБАКОВАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў КУЛЬТУРНАЙ І НАВУКОВАЙ СФЕРЫ.**

Ужо ў наступным годзе, паведаміў міністр, у Менску плануецца адкрыццё філіялу Інстытута Гётэ, які займаецца распаўсюджваннем інфармацыі і папулярызацыяй нямецкай мовы. Відаць, не забудуць зрабіць нешта падобнае і для беларускай у Германіі.

**СУВЯЗІСТЫ НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ХАЦЕЛІ Б**, каб скарацілася падпіска на газеты і часопісы, заявіў на сустрэчы з журналістамі міністр сувязі і інфарматыкі Беларусі Іван Грыцук, бо ў такім разе давялося б скарачаць і колькасць саміх работнікаў ведамства. Міністр таксама паведаміў, што ўдалося атрымаць крэдыт у Еўрапейскім банку рэканструкцыі і развіцця ў памеры 38,5 мільёна долараў. Валюта пойдзе на стварэнне ўласнай сістэмы міжнароднай сувязі, якая да гэтага часу на 75 працэнтаў ажыццяўляецца з мноствам складанасцей праз Маскву, а таксама на будаўніцтва новых міжгародніх сучасных станцый сувязі рознага прызначэння.

**СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ АДБЫЛАСЯ** ў Нью-Брансуіку (ЗША). Ладзяць такія мерапрыемствы Беларуска-амерыканскае задзіночанне і Згуртаванне беларусаў Канады. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч накіраваў удзельнікам сустрэчы тэлеграму, у якой між іншым адзначаецца, што гістарычная радзіма, якая не па сваёй віне доўгі час была для беларускіх эмігрантаў мачыхай, выказвае вялікую ўдзячнасць суайчыннікам за мяжой, якія не забылі матчынай зямлі, засталіся вернымі ёй і яе гісторыі, пранёсшы свае сыноўнія пачуцці праз гады гора і нястачы. Аднак поўнае адраджэнне Беларусі яшчэ наперадзе, для гэтага яшчэ многа давядзецца напружана працаваць, гаворыцца ў тэлеграме.

*ВІНШУЕМ!*

## За актыўную прапаганду беларускай мовы і культуры,

*а таксама за плённую работу ў сродках масавай інфармацыі рэдактару асіповіцкай раённай газеты Анатолю ТАМАШЭЎСКАМУ Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь».*

*Ганаровае званне «Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь» за заслугі ў развіцці беларускай літаратуры прысвоена пісьменніку Уладзіміру ДАМАШЭВІЧУ — члену рэдкалегіі «Нашага слова».*






Верасень. Тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак прыходзяць у беларускамоўныя класы.

Вось беларускамоўная школа-гімназія № 199 г. Менска. Разам з фотакарэспандэнтам мы пабывалі на святочнай лінейцы, зазірнулі ў некаторыя класы, дзе малыя пачаткоўцы знаёміліся з новым для сябе асяроддзем.

На лінейцы навічкі як быццам адразу зразумелі надзвычайны, асаблівы дух тае навучальнае ўстановы, куды патрапілі. Лепшыя вучні мінулага года паднялі дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Прагучалі вершы на роднай мове і клятва гімназістаў, што заклікала быць сумленнымі і смелымі, берагчы гісторыю. Пачулі дзеці, іх бацькі і слова боскае. Малітву, прысвечаную пачатку навучальнага года, прачытаў знаёмы ўжо гімназістам святар — айцец Георгій.

Пасля першага званка, разам з пачаткоўцамі ўваходзім у I «В» клас. Знаёмімся з настаўніцай. Для Віі Генадзеўны Ігнатовіч гэта таксама незабыўны дзень. Першы дзень першага яе настаўніцкага года. Крыху хвалюючыся, Вія Генадзеўна знаёміцца з хлопчыкамі і дзяўчынкамі. Дарэчы, як ні дзіўна, перш чым патрапіць у сцены гімназіі ў якасці вучняў, дзеткі здавалі ўступныя экзамены. Яшчэ за колькі месяцаў да першага верасня. Хлопчыкі і дзяўчынкі дэманстравалі ўменне чытаць, музычныя навыкі, матэматычныя здольнасці.

І вось тыя, хто вытрымаў экзамен, за партай. Вія Генадзеўна расказвае дзеткам пра будучыя ўрокі, пра родную нашу Беларусь.

**Алесь КУТ.**
**Фота Міхася ХАМЦА.**

## БНФ — за ўмацаванне саюзу дэмакратычных сіл.

**У сродках масавай інфармацыі распаўсюджана пастанова (ухвала) сойму БНФ аб прыярытэтных кірунках палітыкі Народнага Фронту ў часе падрыхтоўкі да рэферэндуму. Палітычнае становішча ў Беларусі, гаворыцца ў дакуменце, характарызуецца тым, што адбыўся выразны падзел паміж былой камуністычнай наменклатурай, якая з'яўляецца па сутнасці «партыяй улады», і крайне незадаволеным яе дзеяннямі грамадствам. У цяперашні час Беларусь мае значны шанц перайсці да сапраўднай дэмакратыі мірным, канстытуцыйным шляхам, захаваўшы грамадскі спакой. Аднак былая партнаменклатура ігнаруе ў парушэнне закону жаданні народа, волю амаль паўмільёна грамадзян Беларусі да рэферэндуму і правядзення новых выбараў, якія далі б магчымасць умацавання саюзу дэмакратычных сіл, каб стварыць дзейсны парламент, які б значна лепш служыў інтарэсам народа, а не ўладным структурам, што клапоцяцца перш за ўсё пра ўласнае ўзбагачэнне.**

*Ідзе падпіска*

## «Наша слова» падтрымліваюць сябры БЗВ

За апошні год Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, відаць, болей чым дзе згадвалася на старонках «Нашага слова». Ніводнае мерапрыемства патрыятычнага руху не заставалася па-за ўвагай нашай газеты.

Нічога тут дзіўнага, бо актывісты БЗВ — руплівыя, дбайныя сябры ТБМ. У Печынскім гарнізоне, напрыклад, стварыў суполку ТБМ імя Ф. Скарыны маёр Міхась Варанец. А ў сярэдняй школе № 53 г. Менска — маёр запасу Алесь Станкевіч. У гэтых калектывах нямала і чытачоў «Нашага слова».

Падпісная кампанія «Нашага слова» знаходзіцца ў полі зроку Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Найперш газету выпісалі сябры каардынацыйнай Рады БЗВ. Будзем спадзявацца, што большасць сяброў БЗВ прыме ўдзел у правядзенні падпісной кампаніі і не толькі самі стануць пастаяннымі чытачамі «Нашага слова», але падахвоцяць да гэтага сваіх саслужыўцаў.

**Кастусь СМЕЯНОВІЧ.**

# Каму трэба такая «Памяць»?

***Новае скажэнне народнай памяці... стане вялікім злачынствам.***

Як вядома, у рэспубліцы намечана ажыццявіць 130-томнае выданне кнігі «Памяць», кожны том якога мае быць прысвечаны адпаведнаму раёну, гораду. Для гэтага ў 1991 годзе створаны арганізацыйна-метадычны цэнтр, напісаны «Рэкамендацыі па збору матэрыялаў... гісторыка-дакументальных хронік». Ёсць у «Рэкамендацыях...» і такія парады: «Не трэба абмінаць гвалтоўніцкую дзейнасць на Беларусі фельдмаршала Суворава, генерала Мураўёва, генерал-губернатара Курлова і іншых катаў, што ў крыві патапілі сялянскія паўстанні на чале з Кастусём Каліноўскім, Тадэвушам Касцюшкам і інш. У заключэнні гаворыцца: «Не трэба глядзець на гэтыя арганізацыйна-метадычныя рэкамендацыі як на догму, а тым больш як на вычарпальную «жалезную інструкцыю».

Але ў «Рэкамендацыях...» не сказана самага галоўнага: з якіх жа пазіцый разглядаць падзеі і з'явы чалавечага грамадства, з якімі меркамі падыходзіць да характарыстык асобных людзей, якія вызначыліся на розных службах, пасадах, у кіраўніцтве ці дзеяннях; што лічыць добрым ці кепскім?

І вось перада мной рукапіс чарговай кнігі «Памяць». На гэты раз — гісторыка-дакументальная хроніка Г. Магілёва, якая ахоплівае перыяд з глыбокай старажытнасці і да заканчэння Другой сусветнай вайны. З гэтага рукапісу, на жаль, вынікае, што Магілёў быў заўжды горадам Маскоўскай дзяржавы, што яго насельніцтва з удзячнасцю сустрэла «вызваленчыя» рускія войскі ў жніўні 1654 года, а сама захопніцкая вайна 1654—1667 гг., якую распачала і вяла Масковія, называецца «нацыянальна-вызваленчай». Уніі паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай трактуюцца як захоп Польшчай Беларусі. Тут жа мы знаходзім «уз'яднанне» беларускага народа з «вялікім рускім», хоць былі тры гвалтоўныя ваенныя падзелы Рэчы Паспалітай (некаторыя пішуць — Польшчы).

Вельмі спрошчана трактуюцца падзеі 1905 года.

А колькі ў тэксце нізкіх наклонаў «Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі»! Нямала асуджэння і «варожай» контррэвалюцыі часоў грамадзянскай вайны, «варожасць» якой зараз лічыцца вымушанай справай бараніць вечнае і добрае! Усе падзеі падаюцца так, быццам ніколі ўвогуле не было імкненняў беларускага этнасу да незалежнасці. Няма нават упамінання аб Першым Усебеларускім Кангрэсе 18 снежня 1917 года з яго 1872 дэлегатамі, якія выступілі за стварэнне незалежнай Беларусі без бальшавіцкіх крывавых нова-ўвядзенняў. Ні слова і пра абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі.

Затое ў трэцім раздзеле адчуваецца вялікая сімпатыя да барацьбітоў за ўмацаванне Савецкай улады, а таксама абаронцам «сацыялістычнай Айчыны». Мімаходзь успамінаюцца рэпрэсіі 20—30-ых гадоў, відаць, для таго, каб аддаць вонкавую даніну сучаснасці. Але нідзе ні слова аб знішчэнні лепшай часткі беларускага народа, якое ажыццяўлялася і ў г. Магілёве. Затое паўсюдна сустракаем поспехі сталінскіх пяцігодак, усенародны ўздым, стаханаўскі рух і г. д.

Сказанае дае падставу зрабіць вывад, што ўкладальнікі і аўтары рукапісу лічаць савецка-бальшавіцкі лад адзіна правільным накірункам у будучыню. Узнікае, натуральна, пытанне: каму трэба такая «Памяць»?

Думаецца, што адзначанае — не выпадковасць. Ды і як жа інакш, калі ў складзе камісій па стварэнні «Памяці» — былыя кіраўнікі КПСС — КГБ, пісьменнікі, журналісты і навукоўцы, якія добра жылі за кошт татальнага падману свайго народа.

Спадзяюся, што абноўленыя камісіі зробяць карысную справу, калі спачатку надрукуюць макеты сваіх кніжак, калі іх грунтоўна абмяркуюць у рэгіянальным друку, а затым будзе абвешчаны конкурс на макет кожнага раздзела, на яго змест.

Усё гэта справы неадкладныя. Бо новае скажэнне народнай памяці, яе забруджванне тым, што народ ужо катэгарычна адкінуў як шкоднае, стане вялікім злачынствам перад нашчадкамі, перад будучыняй народа!

**А. А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

Меркаванні

# А калі пытанне па-татарску?..

Ніколі наша беларускае слова не будзе гаспадаром на Беларусі, пакуль не будуць зменены цяперашнія кіраўнікі ўсіх рангаў, у тым ліку розных прадпрыемстваў і ўстаноў. Усе яны пастаўлены на свае пасты былой партнаменклатурай, а значыць, кадры «идеологически проверенные», у пытаннях мовы выпрабаваныя «интернационалисты», поўнасцю падтрымлівалі вядомую «руководящую линию» на зліццё моў. Ясна, што не змянілі сваіх поглядаў яны і цяпер, бо, як вядома, ні адзін з іх не спяшаецца выконваць Закон аб мовах. Толькі там, дзе кіраінік сапраўдны беларус, беларуская мова ўваходзіць у службовы ўжытак. А так, куды ні павярніся — усюды «великий и могучий», у тым ліку і на нашым тэлебачанні.

Якая патрэба тэлежурналістам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі карыстацца замежнай мовай? Адказ тут адзін: які поп, такі і прыход. А яшчэ трэба раз і назаўжды ўсвядоміць, што грамадзяне Беларусі, незалежна ад таго, на якой мове яны гавораць, усе добра разумеюць беларускую, што няма ніякай патрэбы ў размове з імі пераскокваць на «великий и могучий». Гэта, зрэшты, датычыць не толькі тэле- і радыёжурналістаў.

Наш Старшыня Вярхоўнага Савета спадар С. Шушкевіч таксама вельмі часта грашыць гэтым. Яго прынцып адказваць на пытанні на той мове, на якой яны задаюцца, мякка кажучы, дзіўны. Я чуў яго адказы на беларускай, рускай, польскай мовах. А ці адказаў бы ён па-татарску, па-яўрэйску, не кажучы ўжо пра кітайскую і іншыя мовы? І гэты «прынцып» сп. Шушкевіча часта прыводзіць да парадаксальных сітуацый. Напрыклад, зранку сесію Вярхоўнага Савета сп. Шушкевіч вядзе на беларускай мове, у другой палове дня таксама па-беларуску дакладвае дэпутатам аб выніках нарады ў Маскве, адкуль толькі што прыехаў. Пытанні дэпутаты задаюць па-руску, бо амаль усе «русскоязычные». Спадар Шушкевіч таксама пераходзіць на расейшчыну. Далей некалькі гадзін там гучаць дыялогі на гэтай мове. Навошта? Няўжо дэпутаты разумеюць толькі рускую мову? Выходзіць, усё, што гаварылася па-беларуску ў гэты дзень дагэтуль і ва ўсе папярэднія дні, дэпутаты не разумелі?

Тое ж самае адбываецца і ў іншых аўдыторыях, дзе, размаўляючы з грамадзянамі Беларусі, сп. Шушкевіч пры адказах на пытанні з дзяржаўнае мовы пераходзіць на рускую. У выніку з залы надоўга знікае роднае беларускае слова. На мой погляд, гэта недапушчальна. На тэрыторыі Беларусі Старшыня Вярхоўнага Савета пры афіцыйных сустрэчах з грамадзянамі Беларусі абавязкова павінен карыстацца толькі дзяржаўнаю беларускай мовай!

г. Менск.

**Міраслаў СІДАРОВІЧ.**

*Меркаванні*

# ЦІ ВЫПУСКАЦЬ ДАЧКУ НА ВУЛІЦУ?..

Уважліва сачу за публікацыямі ў газетах і часопісах, так ці інакш звязанымі з беларускай мовай. Хачу зрабіць шчыры камплімент «Нашаму слову». У штотыднёвіку мне падабаецца сапраўдны плюралізм думак. Толькі лічу, што не варта траціць энергію, каб нешта даказаць на старонках выдання самаўпэўненым асобам, якія не навучыліся такту і павазе да другіх. Маю на ўвазе вайскоўца ў адстаўцы Васпанава А. Н. («Наша слова», № 30).

А можа, я памыляюся? Можа, штосьці ўрэшце і дойдзе да гэтага капітана?..

Як палягчэла б на душы, каб раптам Беларусь стала заможнай, міралюбівай дзяржавай з высокім рэйтынгам у свеце, з нацыянальнай годнасцю! На жаль, тое адбудзецца не так хутка. І каб пераканацца ў гэтым, трэба цвяроза паглядзець вакол сябе, зрабіць аналіз сённяшняга нашага грамадства, яго духоўнасці.

Над намі зараз навіс прывід рынку, а дакладней... новы ідал. Засталося толькі ўвасобіць яго ў статуэтках і маліцца: «О, усемагутны і адзіны, дай нам каўбасы і «мерсэдэ)саў»!» Ды каб не здарылася так, што наша адраджэнне непрыкметна ператворыцца ў выраджэнне. Аб гэтым сведчыць сітуацыя, якая складваецца вакол беларускамоўных выданняў.

Вядома ж радуе, што ёсць многа людзей, якія ставяцца да нашай нацыянальнай мовы неабыякава. На жаль, некаторыя з іх нагадваюць упартых лебедзя, рака і шчупака з хрэстаматыйнай крылоўскай байкі. Адны толькі за тарашкевіцу, другія за сучасны правапіс, трэція за лацінку ці яшчэ штосьці. Кожны імкнецца даказаць (часцей эмоцыямі), што ён і толькі ён спасціг ісціну, а апаненты з іншымі меркаваннямі — невукі ці ворагі беларушчыны.

Калі такі падыход будзе назірацца і заўтра, то воз доўга прастаіць нерухома, а то і згніе.

Я лічу, што не трэба выдумляць веласіпед. Ён ёсць. Праўда, новая хваля рэвалюцыянераў сцвярджае: «Гэта сталінская машына!» Некаторыя ж гавораць: не, ровар польскі. Мне ж здаецца: гэта ўжо наш, нацыянальны веласіпед. І ў ім, як і ва ўсіх веласіпедах на свеце, многа агульнага і запазычанага, толькі цяпер не разбярэшся, хто і што ў каго пераняў. І нічога тут дрэннага няма. Галоўнае, каб было добра ехаць. А ў часе эксплуатацыі, магчыма, і будзе замена пэўных дэталей на больш надзейныя.

Мы маем неблагую літаратурную мову. І слоўнікі ёсць. Не адмаўляю, што і ў мове і ў слоўніках нярэдка сустракаецца спрэчнае і недарэчнае. Але ці трэба літаральна ўсё перакрэсліваць, выкідваць на сметнік толькі таму, што яно стваралася ў савецкі час, пад сталінскім абцасам? Як быццам тыя, хто тады працаваў на беларускай ніве, усе без выключэння толькі і рабілі, што імкнуліся спаскудзіць працу папярэднікаў і павярнуць народ у расійскі ці польскі бок. Сорамна, калі такую прымітыўшчыну нярэдка гарадзяць людзі з вучонымі ступенямі.

Безумоўна, пячатка бальшавіцкага часу ў мове, і не толькі ў ёй, застанецца, як бы яе ні сціралі. І польская застанецца. І трагедыі ў гэтым вялікай няма. Любая мова змяняецца ў гістарычнай прасторы. Да таго ж у наш касмічны век, век радыё і тэлебачання, век неверагодных хуткасцей, узаемапранікненне і перапляценне моў будзе працягвацца.

І аберагаць, песціць сваю мову трэба ў рамках разумнага. Іншыя ж моваведы напамінаюць маці з анекдота: гатовы не выпускаць сваю дачку на вуліцу, каб толькі яна там не пачула дрэнных слоў.

Вядома, што адзіна правільны арыенцір літаратурнай мовы — народная. Толькі як акрэсліць крыштальна чыстую народную мову беларусаў? Дзе той пункт адліку, які мы павінны ўзяць за эталон?

Вацлаў Ластоўскі ў прадмове да свайго вядомага слоўніка пісаў: «...мова наша знішчалася сотнямі гадоў, дык і праца па ачыстцы яе не можа быць зроблена высілкамі адзіночнага чалавека: над гэтым павінны доўгія дзесяцілецці працаваць вучоныя, аб'яднанні і ўстановы».

Поўнасцю згодзен з гэтымі словамі. Калі ж пачнём празмерна спяшацца з ачышчэннем, то настолькі абскубём мову і навыдумляем абсурдных «беларускіх» слоў, што некалі за іх будзе сорамна будучым пакаленням.

Згодны з настаўнікам Паўлам Дубком («Наша слова», № 31), што пачатак традыцыі трэба шукаць у часе Вялікага княства Літоўскага і нават раней. І ў сучасным правапісе арыентавацца на гэтыя моцныя карані. І на Ластоўскага арыентавацца, і на Тарашкевіча, і на шматлікіх іх паслядоўнікаў. Нешта прымаць, нешта аспрэчваць, ісці на кампрамісы. Толькі гэта павінна рабіцца разумна, разважліва, інтэлігентна.

Мне здаецца, што беларуская мова, якую мы зараз маем, яшчэ добра паслужыць. Магчымы нейкія змены ў правапісе (напісанне, скажам, мяккага знака). Для мяне асабіста гэта не істотна. Думаю, што маладым гараджанам, адарваным ад вясковых каранёў, згубіўшым адчуванне неабходнай артыкуляцыі, такія перамены наўрад ці многа дадуць. Галоўнае, каб у іх не прапала жаданне вывучаць родную мову.

Свае нататкі хочацца закончыць на аптымістычнай ноце. Беларусь паступова адраджаецца, ідзе крок за крокам да поўнай самастойнасці. Цяжка ідзе! З перашкодамі. У пошуках і сумненнях. У спрэчках. У эмацыянальных усплёсках і лаянцы. Аднак верыцца: праз пэўны час беларуская разважлівасць і розум, традыцыйная гаспадарлівасць прывядуць наш народ да лепшай долі. І на сваёй роднай мове мы ўсе абавязкова загаворым!

**Янусь МАЛЕЦ.**

г. Менск.

## ПАКЛАНІЦЦА ПРОДКАМ



На Беларусі з афіцыйным візітам пабываў міністр замежных спраў Ізраіля Шымон Перэс. Ён таксама наведаў мясціны, дзе нарадзіўся — вёску Вішнева на Валожыншчыне, і ўсклаў кветкі на магілы продкаў.

**Фота Уладзіміра ШУБЫ.**
**Белінфарм.**

## Хочам наладзіць ліставанне

**Мы ў сваім пасёлку Руба, што ля Віцебска, стварылі суполку сяброў Таварыства беларускай мовы і вырашылі наладзіць сувязь з такімі ж суполкамі на Беларусі. Вось і звяртаемся да рэдакцыі з просьбай даць нам адрасы прыхільнікаў беларускай мовы.**

**Ірына ІГНАЦЕНКА.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Напачатку публікуем адрас, па якім могуць напісаць прыхільнікі беларушчыны да сяброў ТБМ пасёлка Руба: 211321 г. Віцебск, пас. Руба, вул. 6-ая Лясная, 19, Ігнаценка Ірыне Зміграўне.**

**Хочам нагадаць, што ўсё ж лепш усім сябрам беларушчыны пісаць лісты ў нашу рэдакцыю, паведамляючы пра свае справы ды клопаты. Усё цікавае мы абавязкова надрукуем, а заадно па жаданні аўтараў можам указаць іх адрас для ліставання з аднадумцамі ці апанентамі.**

*Госці рэдакцыі*

# ЁСЦЬ У МЕНСКУ БЕЛАРУСЫ?

***(Сталіца Рэспублікі Беларусь вачамі асістэнта Гданьскага універсітэта Алены Глагоўскай)***

**— Спадарыня Алена, Вы часта бываеце ў Менску, але нашым госцем сталі ўпершыню. Скажыце, з якой мэтай Вы наведваеце Беларусь?**

— Я выкладаю студэнтам у Гданьскім універсітэце такі прадмет, як палітычная сістэма Польшчы, партыі і партыйныя сістэмы ў сучасным свеце. Прыязджаю ў Менск, каб працаваць у архівах, карыстаюся дакументамі, якія там знаходзяцца, паколькі цікаўлюся гісторыяй Беларусі 20-ых гадоў.

**— Вы вельмі добра размаўляеце па-беларуску. Раскажыце пра сваё паходжанне, чаму Вы зацікавіліся менавіта гісторыяй Беларусі?**

— Я беларуска. Нарадзілася на Беласточчыне, у вёсцы, што мае вельмі цікавую назву Ярылаўка. У дзяцінстве размаўляла толькі па-беларуску (гэта, можна сказаць, мая першая мова) аж пакуль не пайшла ў пачатковую школу. Цяпер нават прыпамінаю такія забаўныя сітуацыі, калі мая сяброўка, якая выхоўвалася ў бабулі ў нашай вёсцы, а бацькі якой жылі ў Беластоку і час ад часу забіралі дачку ў горад, па прыездзе адтуль выхвалялася перада мной, што ўжо нешта ўмее сказаць па-польску. А мне было вельмі сорамна, што я нічога на гэтай мове не ведаю, бо-ёй не карыстаюся, паколькі ў вёсцы ўсе размаўляюць толькі па-беларуску. У пачатковай школе пачала вучыцца на польскай мове. На ёй выкладаліся ўсе прадметы. Праўда, ад другога да восьмага класа вывучалася беларуская мова. Але гэты прадмет, як я пераканалася пазней, быў неабавязковым. Хоць цяпер, калі гэта ўспамінаю, здаецца, што мы чыталі вельмі добрыя творы, і ўрокі праводзіліся даволі цікава. Больш увагі заўсёды надавалася польскай мове, нават калі праводзіліся ў школе нейкія ўрачыстасці.

Што да маёй зацікаўленасці гісторыяй Беларусі, то ў гэтым мне вельмі дапамог прафесар-гісторык нашага універсітэта, пад кіраўніцтвам якога я працую. Калі я ўладкоўвалася на працу, то напісала ў дакументах, што ведаю беларускую мову. Ён прыйшоў да высновы, што мне трэба заняцца беларускімі праблемамі. Здарылася так, што ён практычна стаў тым чалавекам, які прывёў мяне да нацыянальнай свядомасці і ўвогуле прымусіў займацца гісторыяй Беларусі. Я ж пасля заканчэння факультэта журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага універсітэта лічыла сябе полькай.

**— У Гданьску ёсць аддзяленне Беларускага грамадска-культурнага Таварыства. Як імкнуцца гданьскія беларусы захаваць нацыянальныя традыцыі, культуру, ці вучаць роднай мове сваіх дзяцей?**

— У 1967 годзе ў Гданьску беларусы, якія прыехалі з Беласточчыны, каб тут вучыцца і працаваць, стварылі Беларускі клуб. Ён змяшчаўся ў структурах Беларускага грамадска-культурнага Таварыства, галоўнае ўпраўленне якога знаходзіцца ў Беластоку. А некалькі гадоў назад мы вырашылі стварыць незалежнае ад Беластока Беларускае культурнае Таварыства «Хатка». Уся яго дзейнасць скіравана на тое, каб прывесці да беларускасці моладзь, паколькі гданьскія беларусы дома размаўляюць па-польску і дзеці роднай мовы не ведаюць. Мы арганізавалі ў нашым клубе беларускую школку для дзяцей, пачалі вучыць іх беларускай мове, музыцы, знаёміць з літаратурай, гісторыяй. Заняткі праводзяцца адзін раз на тыдзень у пятніцу.

**— Ці маеце нейкае памяшканне?**

— Так. У нас было вельмі добрае памяшканне ў Старым горадзе. Там нават наладжвалі танцы. Але ў Польшчы грамадскія арганізацыі не могуць фінансавацца дзяржавай, яны павінны ўтрымоўваць сябе самі. А паколькі мы маем пэўныя фінансавыя цяжкасці, то будзем вымушаны змяніць гэтае памяшканне на значна меншае. Не ведаю, як цяпер будзе выглядаць уся наша дзейнасць.

**— Ці бачыце нейкі плён Вашай працы?**

— Безумоўна. Наша маладое пакаленне ўжо пачало лічыць сябе беларусамі. Тыя, хто наведвае «Хатку», ужо могуць размаўляць па-беларуску, ведаюць хоць штосьці з гісторыі, літаратуры, спяваюць беларускія песні.

**— Відаць, Ваша дзейнасць неяк асвятляецца сродкамі масавай інфармацыі?**

— У гэтым нам шмат дапамагае вядомая польская журналістка Ганна Сабецка. Яна папулярызуе нашую дзейнасць на польскім радыё, сістэматычна наведвае «Хатку», прыходзіць на ўсе нашыя імпрэзы, а потым паведамляе пра іх на Гданьскім радыё. Дзякуючы ёй, слухачы даведваюцца пра падзеі ў Беларусі. Так, яна зрабіла гадзінную перадачу на Варшаўскім радыё па першай праграме пра Максіма Багдановіча. Такая ж праграма была падрыхтавана пра ўгодкі БНР. Дарэчы, такой праграмы ніхто не зрабіў нават у Беластоку.

**— Як часта Вы збіраецеся ў «Хатцы»?**

— Адзін раз на тыдзень абавязкова, калі праходзяць заняткі для дзяцей. Але гэта ў значнай ступені залежыць ад нагод, якія здараюцца, і ад людзей, якія прыязджаюць да нас. Мы час ад часу ладзім нейкія святкаванні, сустрэчы...

**— У гэтым годзе ў Вас гасцявалі навучэнцы з Беларускага ліцэя ў Менску?**

— Так. Летась нашыя дзеці прыязджалі адпачываць у летнік «Грунвальд». Мы надумалі неяк аддзячыць за гэта і запрасілі дзяцей з Беларусі да нас. Сродкі на іх утрыманне зарабілі на экскурсіях, якія арганізавалі для школ з Беласточчыны. У нас ёсць чалавек, які прафесійна займаецца гэтым. Калі былі знойдзены сродкі, паўстала пытанне, дзяцей якога ўзросту запрашаць. Паколькі ўзніклі пэўныя цяжкасці з памяшканнем, дзе маглі б размясціцца госці, то вырашылі не рызыкаваць малымі дзецьмі з пачатковых школ. Таму прапанову зрабілі дырэктару ліцэя пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры (БГАКУ) Уладзіміру Коласу. Ён яе прыняў. Да нас прыехала 30 чалавек. Узнікла праблема размяшчэння такой колькасці людзей. Таму што нават разбіць палаткі ў нас у Польшчы немагчыма, бо трэба плаціць за месца.

Мы звярнуліся за дапамогай да ваяводы Гданьска. У выніку нашых гасцей размясцілі ў Кашубскім ліцэі, што ў Брусах. І вось падчас пабыўкі дзяцей паўстала ідэя супрацоўніцтва паміж Беларускім ліцэем у Менску і Кашубскім ліцэем у Брусах.

**— Вы пастаянна наведваеце Менск. Якія змены за гэты час Вы заўважылі — палітычныя, культурныя?**

— Будучы ў Менску, даводзіцца шмат працаваць у архівах, і я не маю магчымасці назіраць штодзённа жыццё горада. Але здаецца, што, акрамя вывешаных бел-чырвона-белых сцягоў ды нешматлікіх беларускіх надпісаў на вуліцах, нічога не змянілася. Праўда, цяпер крыху часцей можна пачуць беларускую мову ў тралейбусе ці аўтобусе (калі называецца прыпынак). Хацелася б прыехаць у Беларусь і пачуць, нарэшце, на вуліцы вольную беларускую мову. Але пакуль што калі б не спаткалася з тымі нешматлікімі людзьмі, якія размаўляюць па-беларуску, то магла б сказаць, што беларусаў у Менску ці няма, ці яны недзе пахаваліся.

**Гутарыла Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Студэнт і наша гісторыя*

# *Няўжо не бачна?*

***Бадай, першымі, каго катэгарычна не задаволіў сучасны стан айчыннай гістарычнай навукі, яе ўзровень, прынцыпы і метады выкладання роднай гісторыі, былі нашы студэнты. Яны не маўчалі, білі ў званы, патрабуючы гісторыю і культуру Беларусі выкладаць па-новаму. Зрухі ў згаданым накірунку, бясспрэчна, ёсць. Але свежы вецер станоўчых перамен пакуль што ўпарвайся далёка не ва ўсе інстытуцкія аўдыторыі. Часам карціна назіраецца рэзка кантрастная. Зрэшты, мяркуйце самі.***

Возьмем, да прыкладу, дзве менскія ВНУ педагагічнага профілю — Інстытут замежных моў і Педагагічны імя Горкага. З абодвух у Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ішлі справядлівыя скаргі, выкліканыя дрэнным выкладаннем мінулага Бацькаўшчыны. «Замежнікі», як гэта бачна з адпаведных дакументаў, спахапіліся, выправілі становішча. Ідучы насустрач пажаданням студэнтаў, у Інстытуце замежных моў распрацавалі новы навучальны план, які адводзіць гісторыі 76 гадзін. Гэта, падкрэслім, больш, чым прадугледжана на любую іншую тэарэтычную дысцыпліну. Акрамя таго, там узяліся цэласна вырашаць праблему ўдасканалення гуманітарнай адукацыі: адкрылі кафедру беларускай мовы і нацыянальнай культуры, стварылі адпаведныя навукова-практычныя цэнтры, увялі на ўсіх факультэтах абавязковы курс «Беларуская мова». Справа, як кажуць, пайшла.

А што ў гэтым накірунку робіцца ў студэнтаў-гісторыкаў, будучых настаўнікаў? Ім, на жаль, зусім не пазайздросціш: у аўдыторыях — усё, як і ўчора. Не вытрымалі хлопцы (26 чалавек), напісалі. Некалькі цытат з іх ліста: «На працягу апошніх паўтара гадоў з ведама рэктара і пры поўнай згодзе загадчыка кафедры гісторыі Беларусі А. М. Лютага на кафедру былі пераведзены ўсе аспіранты кафедры гісторыі КПСС, а таксама былы загадчык гэтай кафедры Мацко і выкладчык гэтай кафедры, былы сакратар камітэта камсамола Цобкала А. А., якія... ведамі па гісторыі Беларусі не вызначаюцца. Наогул, уся кафедра гісторыі Беларусі... складаецца пераважнай большасцю з малаадукаваных людзей, якія не ведаюць свайго прадмета... Выкладчыкі не ўлічваюць шматлікіх новых выданняў і публікацый, падаючых гісторыю Беларусі больш рэальна, і карыстаюцца... «шэдэўрамі» брэжнеўскіх часоў». Далей з ліста вынікае, што на факультэце на гісторыю Беларусі адводзіцца ўдвая меней гадзін, чым на гісторыю былога СССР. Дарэчы, гэта ўжо паводле новых навучальных планаў.

Вось так: даўно няма ўжо таго СССР, а яго падрабязную гісторыю ўсё выкладаюць і выкладаюць. Даруйце, што ж там за прафесары і дацэнты такія? Вопкава з імі ўсё ў ажуры. Тым не менш, студэнты прыйшлі да сумнай высновы: становішча «надобна на свядомую палітыку, накіраваную на выхаванне ў студэнтаў зняважы да ўсяго беларускага».

Але калі так, то ўзнікае, натуральна, пытанне: няўжо ў Міністэрстве адукацыі, якое, да слова, знаходзіцца праз вуліцу, літаральна насупраць згаданай тут установы, ва ўпор не бачаць таго, што робіцца?

**М. В.**


Выступае пісьменнік Сяргей ГРАХОЎСКІ.



Фота Л. Дубаневіча.

# СВЯТА Ў «АКОПАХ»

25 жніўня адбылося ўрачыстае адкрыццё «Акопаў» — філіі літаратурнага музея Янкі Купалы на Лагойшчыне ў вёсцы Харутэнцы. У імпрэзе прынялі ўдзел беларускія паэты, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы Рэспублікі Беларусь, замежныя госці.

Афіцыйная частка ўрачыстасцей пачалася з выступлення дырэктара купалаўскага музея Жанны Дапкюнас. Яна распавядала пра цяжкі шлях, перашкоды, якія ставіліся ў свой час перад стварэннем музея, падзякавала шчырым сябрам беларускага Адраджэння, якія аказалі пасільную дапамогу, і ў прыватнасці — Нілу Гілевічу. Дарэчы, менавіта яму было прапанавана разрэзаць чырвоную стужку.

Госці свята пазнаёміліся з экспазіцыяй музея. Агляд пачаўся з купалаўскіх мясцін Лагойшчыны. Хацелася б адзначыць некаторыя арыгінальныя сімвалічныя дэталі экспазіцыі: дзверы, праз якія пайшоў Янка ў людзі, разбураную хату, бярвенне — быццам малюнак з другога акта драмы «Раскіданае гняздо». Апошняя зала музея — тэатральная. Яе і назвалі «Паўлінка» ў гонар незабыўнай камедыі. Тут плануецца праводзіць маленькія прадстаўленні, ажывіць традыцыю беларускай батлейкі.

Пасля агляду экспазіцыі ўсе накіраваліся на палянку. Свята праходзіла пад адкрытым небам, і мяне вельмі ўразіла еднасць з прыродаю. Упершыню на ўрачыстым мерапрыемстве мне давялося быць гледачом разам з конікамі, матылькамі, якія бесклапотна садзіліся на мой нататнік і з сур'ёзным выглядам слухалі прамоўцу. Нездарма паэт так плённа тут працаваў! Даволі хутка прайшла афіцыйная частка, дзе выступілі Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Мікола Аўрамчык, Раіса Баравікова, Пётр Краўчанка, Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Яўген Вайтовіч, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Давідовіч, Уладзімір Пецюкевіч, Барыс Сачанка.

У другой частцы свята гледачоў чакаў сюрпрыз. Акцёры Слуцкага народнага тэатра выкарысталі магчымасць паставіць камедыю «Паўлінка» ў тых мясцінах, дзе яна была напісана. Сцяпан і Альжбета прыязджаюць на сапраўдным кані з сапраўднага Даўгінаўскага тракту... Натуральна гучалі тут вясёлыя і самотныя народныя песні, танцавалі не толькі на сцэне, але і на траве-мураве... Доўга не канчалася свята. Музыкі igралі яшчэ і на дарозе, каля аўтобуса, да неба ляцелі гукі гармоніка, дуды, скрыпкі. Дзесьці на прызбе спяваў малады барадаты беларускі бард...

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Зоські ВЕРАС*

# З гаючай крыніцы

Да Зоські Верас усе цягнуліся, як да гаючай крыніцы, з якой можна было зачэрпнуць і неруш гістарычных звестак, і свежае, незацяганае слова, пачуць арыгінальную, незалежную думку. Я ліставаўся з ёю. Мы парушалі ў сваіх лістах самыя розныя тэмы, моўныя таксама. І гэта натуральна. У 1979 годзе мы наладзілі тэлевізійны часопіс «Роднае слова», і Зоська Верас з гэтай нагоды неаднойчы дзялілася з намі сваімі думкамі, развагамі пра стан нашай мовы, пра культуру слова. Абуралася і раіла! Дзівілася і пакутавала! Шмат якія яе развагі надзённыя і сёння. Прапаную колькі Зоськіных лістоў, у якіх гаворыцца пра тыя ці іншыя моўныя з'явы нашага жыцця.

*«Дарагі Уладзімір Ільіч!*

11.VII.83
Вільня

*Хіба ж Вы ведаеце, што 1 ліпеня намёр у Мінску Янка Маркавіч Хвораст — харэограф. Энтузіяст беларускіх народных танцаў. Былы вучань Віленскай беларускай гімназіі, Віленскага універсітэта. Даўно цяжка хворы — амаль да апошніх хвіляў працаваў: запісваў, прыгатаўляў да друку старыя беларускія танцы, так, як патрабуе гэтага мастацтва харэографа...*

*Напісаў ужо і здаў шмат, але нічога не друкавалі, усё складалі на кучу... А вось украінцы ў Кіеве ў сваёй багатай дзіцячай літаратуры друкавалі беларускія дзіцячыя гульні з песьнямі, якія ім Янка Хвораст пасылаў... Ці не балючая няўвага да свае старасветчыны?*

*У нас толькі хлусьня заслугоўвае на распаўсюджваньне... На гэта і папера знаходзіцца.*

*Што да нашага саду. Я не маю намеру ім хваліцца — напэўна, знойдуцца лепшыя і цікавейшыя, але хацелася б выкарыстаць такую магчымасьць, каб кінуць у вочы ўсім нашым паважаным (?) паэтам, пісьменнікам і гэтак далей, як яны бяздумна і бессаромна засьмечваюць нашу мову, называючы кветкі, зёлкі, кусты чужаземнымі імёнамі або іх калькай...*

*Не далей як у апошнія дні разгортваю «Родную прыроду» — вялікі артыкул пад загалоўкам: «Глог». Ня душыць Вас гэтае слова пры вымаўленьні?.. А гэта ж чысты польскі назоў!.. То чаму ж ня ўжываць беларускі назоў? Ня ведаюць? — то няхай даведаюцца, пашукаюць.*

*Учора атрымалі ліст з Беларусі! Хваляцца: «У нас у агародзе цэлая аптэка»: «пустырнік» (бел.— сардэчнік), «зверабой» (бел. — сьвятаяннік), «мачь-мачаха» (бел.— падбел).*

*Ці ня страшна? А што будзе далей? Як старыя паўміраюць? І мова, як такая, памрэ, астанецца толькі граматыка, сінтаксіс, фразеалёгія... сухое мовазнаўства, сухая навука аб неіснуючай мове. Гэта ж такая блытаніна ня толькі ў батаніцы, тое ж і ў арніталёгіі.*

*Вось што мне баліць, але сілы і часу штораз менш і менш...»*

Зоська Верас пісала гэты ліст, калі ёй было трошкі больш за дзевяноста! Але як жа молада ён гучыць! Колькі ў лісце гэтым неспакою, трывогі, хваляванья! З такім жа неспакоем і радасцю яна ўспрыняла вестку аб стварэнні на Беларускім тэлебачанні і перадачы «Роднае слова». Жывучы ў Вільні, у лясной хатцы, яна сама не мела магчымасці глядзець нашу перадачу, але ўвесь час цікавілася, што ў нас чуваць, як сталее тэлечасопіс, раіла.

14.01.80 г.
Вільня

*«Паважаны Уладзімір Ільіч!*

*Як пішам, як гаворым — добра. Спадабалася. Толькі самі выступаючыя робяць памылкі. Што, напрыклад, за «моўная культура»? Чаму не «культура мовы?» або «культура слова?» Гэта не толькі мой погляд, а і філёлагаў. Пераглядаюць, жуюць памылкі граматычныя, стылістычныя і г. д. Аніякай увагі на такія недарэчныя ў беларускай мове словы, як «крышка», «каструля», «соус», «суп», «кофта» і сотні падобных жыўцоў, узятых з чужой мовы.*

*Мо, зрэшты, цяпер і народ так гаворыць? Бо, прызнайцеся, што наша «чыстая старая» мова зьнікае без сьледу... Гэта віна і этнографаў. Возьмем, напрыклад, паэты пішуць: «іней», калі па-беларуску «шэрань».*

*Адзін з пісьменнікаў у «ЛіМе» пытаецца: «Як добра пісаць?» Я б яму адказала: «Каб добра пісаць, трэба добра ведаць мову...»*

*Так хочацца напісаць у «Роднае слова» па сваёй спэцыяльнасці — назоваў раслінаў, птушак... Але што ж, калі вельмі дрэннае самаадчуванне не дае...*

*Ліст пісаць і то цяжка...*

*Але хто ведае? Мо яшчэ змагу?!*

*Тады, напэўна, перабяру ўсіх, хто бяз увагі адносіцца да сваіх родных слоў абыякава, замяняе чужымі, абы лягчэй, абы ня думаць».*

А вось разважанні Зоські Верас, як найлепей адрадзіць родную школу:

*«Я помню ў 1917 годзе, не, нават у канцы 1916 года пачаліся гутаркі аб беларускіх школах і аб патрэбе школьных падручнікаў. Пачалі шукаць людзей, якія маглі б такія падручнікі апрацаваць. Тады адзін сябра сказаў: «Ці не думаеце, што гэтая справа чыста вонкавая — пачынаецца з вярхоў, а трэба пачаць ад нізу — парупіцца, каб наша беларуская мова ўвайшла ў кожны дом, у кожную сям'ю, каб ёй карысталіся ўсе — ад малога да вялікага, кожны дзень, кожную хвіліну. Тады і ў школу пойдуць, як у сваю, а ня будуць у школе, толькі знаёміцца з беларускай мовай...»*

Так Зоська Верас жыла і думала, і калі ёй было дзевяноста, і калі падбіралася пад сотню. Ёй было што сказаць, расказаць, ды афіцыйную ідэалогію не цікавілі яе думкі. Яны не маглі ў той час прабіцца на старонкі нашых часопісаў ды газет. То хай хоць на сотую гадавіну частка яе думак з прыватных лістоў дойдзе да ўсёй шчырай беларускай грамады.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**


Апошняе інтэрв'ю.

***У АБМЕН НА НАФТУ** ў дапаўненне да дагавору ў вярхах, паведамляецца ў прэсе, Беларусь пабудуе сёлета 50 тысяч квадратных метраў жылля і 60 кіламетраў дарог у Заходняй Сібіры. А пачынаючы з наступнага года, сіламі беларускіх падрадчыкаў, акрамя іншага, прадугледжанага двухбаковым пагадненнем, у Сібіры будзе штогод уводзіцца 60 тысяч квадратных метраў жылля, 86 кіламетраў транспартных камунікацый ды іншыя аб'екты. Так што чуткі, быццам Расія пастаўляе беларусам нафту толькі з-за братэрскіх «славянскіх» пачуццяў, як гаворыцца, моцна перабольшаны.*

# Вочна-завочная школа

**Шаноўныя чытачы «Нашага слова»!**

**Як сведчаць лісты ў рэдакцыю нашай газеты, выступленні ў друку, радыёперадачы, расце зацікаўленасць беларускай мовай. На некаторых прадпрыемствах, ва ўстановах ствараюцца спецыяльныя курсы для жадаючых авалодаць ёю.**

**Для тых, хто вырашыў вывучыць беларускую мову самастойна, мы адчыняем вочна-завочную школу. Першы курс разлічаны на 16 заняткаў. Да кожных з іх мы будзем друкаваць тэарэтычны курс, слоўнікі на пэўныя тэмы, тэксты для ўдасканалення навыкаў звязнай гутаркі, метадычныя рэкамендацыі. Будуць прапанаваны і заданні.**

**Наша школа вочна-завочная, а таму пасля кожных двух урокаў самастойнага вывучэння Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыя газеты «Наша слова» будуць ладзіць кансультацыі і практычныя заняткі, на якіх жадаючыя змогуць адпрацаваць навыкі гутарковай мовы, а таксама атрымаюць кваліфікаваную дапамогу.**

**План падрыхтавала і будзе весці заняткі і кансультацыі загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Менскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў Валянціна Карлаўна Раманцэвіч.**

**Чытачоў, якія зацікавяцца заняткамі ў нашай вочна-завочнай школе і будуць мець магчымасць наведваць курсы ў памяшканні рэдакцыі, запрашаем звяртацца ў рэдакцыю газеты «Наша слова». Пра час кансультацый будзе паведамляцца ў газеце.**

### *I. Тэарэтычны курс мовы*

1. Гукі мовы. Галосныя і зычныя гукі і літары.
2. Вымаўленне спалучаных зычных.
3. Чаргаванне *л — ў, в — ў*. Правапіс *ў*.
4. Звонкія і глухія зычныя. Зацвярдзелыя зычныя.
5. Падоўжаныя гукі і абазначэнне іх на пісьме.
6. Правапіс *д — дз, т — ц*.
7. Абазначэнне мяккіх зычных на пісьме. Апостраф.
8. Склад і націск. Правапіс *о, э — а*.
9. Правапіс *е, ё — я*.
10. Правапіс *і, ы* пасля прыставак.
11. Назоўнік. Род, лік назоўнікаў. Канчаткі назоўнікаў жаночага роду на *-а, -я*.
12. Канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду.
13. Прыметнік і яго граматычныя формы.
14. Лічэбнік і яго граматычныя формы.
15. Займеннік. Прыназоўнік.
16. Дзеяслоў і яго граматычныя формы.

### *II. Развіццё мовы*

1. Словы і звароты ветлівасці.
2. Чалавек.
3. Сваяцкія і іншыя адносіны людзей.
4. Адзенне, абутак.
5. Хата, двор, сядзіба.
6. Кватэра.
7. Поры года. Надвор'е.
8. Сад.
9. Агарод.
10. Лес. Грыбы, ягады.
11. Дзікія і свойскія жывёлы і птушкі.
12. Ежа. Прыгатаванне страў.
13. Горад.
14. Транспарт. Дарожны рух.
15. Гандаль.
16. Праца і адпачынак чалавека.

### *III. Дыдактычны матэрыял*

***Вы пазнаёміцеся з матэрыяльнай і духоўнай спадчынай беларускага народа, яго традыцыямі і абрадамі***

1. Каляды.
2. Новы год.
3. Гуканне вясны.
4. Купалле.
5. Дзяды.
6. Жніво.
7. Касьба.
8. Радзіны.
9. Вяселле.
10. Уваходзіны.
11. Як будавалі дом.
12. Печ у хаце.
13. Парог.
14. Ручнік.
15. Дзяжа.
16. Легенды, паданні.

**Для моўных практыкаванняў будуць прапанаваны прыказкі і прымаўкі, скорагаворкі, загадкі, жарты.**

**Праз кожныя двое заняткаў плануем сустрэчу з курсантамі па адпрацоўцы маўленчых навыкаў.**

**Пры ўмове выканання слухачамі курсаў нашай праграмы гарантуем трывалыя асновы для далейшай самаадукацыі.**

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

## Як ружа...

Яны хадзілі па нашай зямлі, як каралевы... Так сказаў пра беларускіх жанчын адзін з рэцэнзентаў манаграфіі Міхася Раманюка «Беларускае народнае адзенне», што выйшла ў свет у 1981 годзе. Сапраўды, нельга не захапляцца пастаvай кожнай жанчыны, якіх мы бачым на фotаздымках у гэтай кнізе, не кажучы ўжо пра зробленыя іх уласнымі рукамі строі, кожны з якіх — цуд! Так, пачуццё высокай годнасці нашых продкаў выявілася перш вонкава, у вопратцы. Ды ў гэтых каралеў імёны павінны былі быць таксама адпаведнымі!

Жаночыя імёны сустракаюцца ў першых летапісных запісах, што датычаць нашай гісторыі. Можна меркаваць, што гэта сведчанне той значнай ролі, якую мелі жанчыны нашай краіны ў яе паўсядзённым і, так бы мовіць, дзяржаўным жыцці. Скупое сведчанне летапісца: не хачу разуці рабычыча, вядома ж, не трэба разумець як залішнюю ганарлівасць Рагнеды. Відаць, полацкія князёўны мелі права на сваё адметнае меркаванне нават у рашэнні такога важнага пытання, як заключэнне дынастычнага шлюбу. Здавалася б, усё павінна было вырашыцца проста: полацкі князь Рагвалод аддае сваю дачку замуж за кіеўскага князя і такім чынам захоўвае сваё жыццё, а магчыма, таксама і незалежнасць Полацкага княства. І няўжо шлюб з магутным князем Уладзімірам, дарэчы, па жаночай лініі нашчадкам драўлянскага любецкага князя Мала, мог быць ганьбаю? Відаць, не. Ды ў палачан, пэўна ж, не было звычаю аддаваць дачок замуж наперакор іх жаданню, а таму і Рагвалод вырашыў лепш загінуць, але не прымушаць Рагнеду.

Высокі статус жанчыны таго часу пацвярджае яшчэ адна трагічная старонка гісторыі нашай дзяржавы. У 1128 годзе кааліцыя паўднёва-рускіх князёў захапіла Полацк. Праз год мясцовых князёў выслалі ў Візантыю. А ў Полацку засталася князёўна Прадыслава, унучка славутага Усяслава Чарадзея. Напачатку, верагодна, яе маці, а пасля яна сама правіла Полацкім княствам. Так, прынамсі, сцвярджае маскоўскі археолаг В. Л. Янін, які вывучаў пячатку з імем полацкай князёўны.

Яе імя, імя яе сястры Гардзіславы, падобныя на тагачасныя мужчынскія імёны — яны ўтвораны паводле адной формы. Але наколькі яна аказалася дасканалай. Яшчэ і сёння можна спаткаць Багуславу, Браніславу, Міраславу, Радаславу, Уладзіславу, Усяславу, Чэславу, Людмілу. Такія імёны па-свойму ўздзейнічаюць і на іх уладальніц.

З паганскіх часоў дайшло да нас імя Рожа, якое пазнейператварылася ў Разалію. Іншыя, менш мілагучныя, былі страчаны. Толькі з гісторыі ведаем цяпер імя Рэпка, якое мела жонка легендарнага польскага князя Пяста. А чым благое яно? З. Глогер, польскі даследчык, захапляецца гэтым імем, якое, паводле яго меркавання, было сімвалам здароўя, моцы. Маладзіца, як рэпа! Параўноўваюць жа дзяўчат з малінаю, вішняю. Верагодна, што былі іншыя раслінныя імёны. Прыкладам, у 1589 годзе земянін Берасцейскага павета скардзіўся ў суд, што з яго маёнтка Перадзільска ўцяклі падданыя. Адзін з іх — Амяльян Кавалевіч з жонкаю Марухнаю, з дочкамі Масью, Ценькаю і Грычнею. Ці не ад слова «грэчка» паходзіць апошняе?

*(Заканчэнне будзе).*

*Называйце па-беларуску*

## Баравік

Грыбок, адыдзі на бок, баравік едзе! Баравік — цар грыбоў. Баравік — усім грыбам палкавік!.. Як бачым, Адам Міцкевіч не сам прыдумаў гэтаму грыбу высокае вайсковае званне. У нашым фальклоры захаваліся песня і жарт пра вайну грыбоў: «Крыкнуў баравік пад сасонкаю: збірайцеся, грыбоўе, са мной на вайну!» І чаму нашы прашчуры прыпісалі першаму сярод грыбоў вайсковыя амбіцыі і ваяўнічыя намеры? Пэўна ж, часцей праўдзівы грыб лагодзіў. Не адна душа «заходзілася» ад радасці, як, прыкладам, у малога Міхася, героя Коласавых «Міхасёвых прыгодаў»:

Баравікоў насушвалі вязкі. Хапала іх на ўсю зіму, імі спаталялі голад, спажывалі ў пост. А на куццю варылі абрадавую страву. Памятаеце, у «Новай зямлі»: «Аздоблен квас быў і грыбамі, выключна ўсё баравічкамі».

У інвентарах беларускіх маёнткаў можна прачытаць пра абавязак прыгонных збіраць грыбы і прыносіць даніну грыбамі, прыкладам: з кожнае паўвалокі зямельнага надзелу — капу (шэсцьдзесят) баравікоў.

У нашых лясах расце некалькі відаў гэтага грыба: бярозавы, грабавы, дубовы, яловы, хваёвы. Але паўсюдна на Беларусі ўсе яны называюцца *баравікамі* і толькі дзе-нідзе — *праўдзівым грыбам, добрым грыбам, праўдзівым, дабраком*. У навуцы баравік вядомы толькі пад адной назвай — *балетус эдуліс*.

## Масляк

Беларуская легенда «Адкуль пайшлі грыбы» пачынаецца так: «Кажуць, што добры казляк лепш кепскага мяса. А ў пост і квас не квасам, калі ў ім няма казлякоў. Без казлякоў, ці, як кажуць, грыбоў, людзі не маглі б пасціць пятроўку...» Як бачым, хоць баравік і палкоўнік, але з ім можа паспрачацца за пяршынства і масляк, або, як яго шмат дзе называюць, казляк. Часам можна пачуць ці прачытаць, што масляк і казляк — два розныя грыбы, але Г. І. Сяржаніна і І. Я. Яшкін, аўтары вельмі цікавай кнігі «Грыбы» (Мн., 1986), сцвярджаюць, што *масляком*, або *казляком*, у розных мясцовасцях называюць два асобныя віды грыбоў. Адзін з іх — *масляк зярністы* (лацінская назва *суіллюс гранулятус)*. Ён мае ножку без колца, у верхняй частцы — з кропелькамі белай масляністай вадкасці. Шапачка пукатая або пляскатая, жаўтава-карычневая або карычнева-бурая, мякаць жаўтавая, прыемная на смак. Таксама масляком або казляком называюць і *масляк позні (суіллюс лютэус)*. У гэтага грыба ножка з кольцам з плеўкі, шапачка шарападобная ці конусападобная, гладкая, слізкая, цёмна-карычневага або шакаладнага колеру, мякаць белая або жаўтавая, трохі кіславатая на смак. Абалонка шапачкі лёгка здымаецца, лупіцца, таму, відаць, у некаторых мясцовасцях масляк позні называюць *лупенік, лупяк, лупяч*.

## Лісічка

Гэты грыб вельмі нязвычна назваць у адзіночным ліку, бо лісічкі растуць звычайна купкамі. Непаўторную паводле формы і колеру лісічку не зблытаеш ні з якім іншым грыбам. Яна, як і іншыя, мае шмат розных назваў: *лісіца, лісіцка, ліска, ліска-пліска, пліска, плісіца, саснянка, падсасонка, сасняк, смалянка, жоўцік, жаўтушка*. Для батанікаў лісічка — *кантарэллюс цібарыус*. Як сцвярджаюць навукоўцы, у лісічкі ёсць сястра — *лісічка шэрая (кратэрэллюс корнукопіоідэс)* — малавядомы ядомы грыб, якога дзенідзе называюць *лейкавец*, верагодна, з-за глыбокай варонкападобнай шапачкі, шэра-чорна-карычневага ці цёмна-дымчатага колеру. Мякаць лейкаўца тонкая, бураватая, са слабым непрыемным водарам і прэсным смакам.

## Кароткі слоўнік эканомікі

УСТАЎНЫ КАПІТАЛ. Колькасць (сума) сродкаў, якія выдзяляюць акцыянерныя таварыствы і розныя прадпрыемствы для пачатку сваёй дзейнасці. Вызначаецца дагаворам ці статутам. Ствараецца за кошт выручкі ад продажу акцый, прыватных укладанняў капіталаў, дзяржаўных сродкаў. Ва ўстаўны капітал уваходзіць кошт асноўных і абаротных сродкаў.

УСТАЎНЫ ФОНД СУМЕСНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА. Зараз пра яго даволі часта ўпамінаюць тыя, хто піша пра сумесныя прадпрыемствы. Гэта агульная колькасць (сума) укладаў СП. Можа папаўняцца за кошт прыбытку ад гаспадарчай дзейнасці і ў выпадку неабходнасці таксама за кошт дадатковых укладаў удзельнікаў.

Устаўны фонд сумеснага прадпрыемства ўключае ў сябе: пабудовы, абсталяванне і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, права карыстання зямлёю, прыроднымі рэсурсамі, асноўнымі фондамі, а таксама іншыя маёмасныя правы (у тым ліку на выкарыстанне вынаходніцтваў, ноу-хау), грашовыя сродкі ў валютах краін-партнёраў і ў свабодна канвертуемай валюце.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—37).*

Калі я пераступіў цераз парог, з-за дзвярэй выйшаў Джынкс і адразу ж зачыніў іх. Нічога дзіўнага, што я не чуў ягоных крокаў: ён быў босы.

— Я бачу, ты атрымаў рафінаванае выхаванне, — сказаў я.

— Што? — не зразумеў ён.

— Ты адчуваеш патрэбу зняць перад гэтым заняткам чаравікі і шкарпэткі. Папраўдзе, ты мяне засмучаеш. Не думаў я, што ты такі далікатны.

— О...— сказаў ён, сумеўшыся.— Я якраз пайшоў ногі мыць.

— Зашпіліся,— сказаў я.

Але я не вельмі сердаваў. Што зробіш: Холідэй — больш тут нічога не скажаш.

Якраз у гэты момант выйшла са спальні яна. Аніводнае складачкі на адзежы, аніводнага валаска не на месцы. Ветліва ўсміхаецца, усё роўна як жонка вікарыя, што прыйшла наліць гарбаты. Я мог бы падрэзаць ёй горла, але надта ўжо яна мяне здзівіла: нервы ў яе былі сапраўды бранірываныя. Яна выдатна разумела, што ў мяне няма ніякіх ваганняў адносна таго, што яна хвіліну таму забаўлялася ў ложку з гэтым крэцінам, аднак нічым сябе не выдавала — аніводнай драбнічкаю.

— А ты нядоўга,— сказала яна ласкава.

— Спецыяліст заўсёды нядоўга,— адказаў я, ушчыкнуўшы заадно Джынкса.

— Праходзь у спальню і рыхтуй апарат,— сказаў я яму.

— А адкуль ты ведаеш, што ён зараз прыйдзе?

— Божа,— узарваўся я,— я ж дзеля таго і выходзіў! Усё абладжана. Дзе другі пугач?

— Там, на апараце.

— Вазьмі і гэты,— працягнуў я яму свой рэвальвер.— Глядзі за абодвума. Спадзяюся, у цябе хопіць смеласці скарыстаць іх, калі будзе трэба?

— Добра, добра,— сказаў ён лагодна.— Падвядзі яго бліжэй да мікрафона.

— Вядома, ну, праходзь.

— Ты думаеш, у мяне няма часу абуцца?

— У цябе няма часу зашпіліцца.

Ён хітра ўсміхнуўся Холідэй і пайшоў у спальню. Яна абыякава паглядзела яму ўслед.

— Прабач,— сказаў я.

— За што?

— Што перашкодзіў табе ў такі момант. Але зразумей сітуацыю. Вось я ў калідоры, не магу дастукацца і чакаю з хвіліны на хвіліну інспектара. Думаю, зараз усё ляснецца. Так што, бачыш, мне трэба было абавязкова ўвайсці. Я як ніхто не хачу замінаць твайму задавальненню, але гэтым разам інакш я не мог. Спадзяюся, што ты разумееш гэта...

— Прашу цябе, не будзь такі з'едлівы...

Я зняў пінжак і прайшоў міма яе да канапы. Яна павольна павярнулася, з цікавасцю гледзячы на мяне. Я паклаў пінжак на канапу і сам угледзеўся ў Холідэй.

— Што цікавага было ў гаражы? — запыталася яна.

— Усё прайшло так, як я і прадбачыў,— суха адказаў я.— Былі два ганчакі і Мэйсан. Я падражніў яго Джынксавымі стольнікамі, і ён адразу ж, як толькі я выйшаў, пайшоў да тэлефона.

— Выдатна,— сказала яна.— А я непакоілася за цябе.

— Добра, ад гэтага часу, калі табе прыйдзецца яшчэ непакоіцца з-за мяне, расслабляйся неяк інакш — не рассоўваючы ляжкі.

Вочы яе бліснулі шалам. Яна адкрыла была рот, каб адказаць, але не паспела і слова вымавіць: у дзверы пастукаліся. Я ўзняўся.

— Запамятай, што я табе сказаў,— прашаптаў я. Сэрца ў мяне часта забілася.

Я адчыніў дзверы. На парозе стаялі Рыс і інспектар Уэбэр, але гэтым разам выгляд у іх быў вельмі пачцівы, усё роўна як у разносчыкаў якіхсьці прадуктаў.

— Ты дазволіш нам увайсці? — спытаўся інспектар.

— Вядома.

Яны ўвайшлі. Я зачыніў дзверы.

— Я трохі здзіўлены, што бачу цябе тут,— сказаў інспектар. Мы думалі, што вы ўдваіх ужо ў дарозе на Арызону...

— Я ўсё раблю дзеля таго, каб выехаць, пан. Я спрабую знайсці машыну...

— Малец, кожнага дня на Арызону адыходзяць два ці тры аўтобусы. Я табе ўжо гэта сказаў...

— О, пан, я гэта ведаю...

«Супакойся,— казаў я сабе,— супакойся. Голас павінен быць больш упэўнены. Цяпер няма падставы нервавацца: ты іх прыхапіў, яны ў цябе на кручку. Суньса да мікрафона, як ні ў чым не бывала...»

— Я не хацеў бы, пан, каб вы прынялі мяне за барана,— сказаў я, адступаючы патроху да канапы.— Я хачу пакінуць горад. Хіба няпраўда, што я хачу пакінуць горад? — запытаўся я ў Холідэй.

— Вядома, хочаш,— адказала яна, але звяртаючыся да Рыса. Яна ўсміхнулася яму, і ён адказаў усмешкаю — Холідэй ведала, што таілася ў яго за гэтай усмешкаю, і менавіта такой усмешкі і чакала, шлюха...

Нарэшце я дабраўся да канапы і сеў. Мікрафон быў зусім побач.

— Дык калі ты хочаш з'ехаць? — запытаўся ў мяне інспектар. Ён ступіў услед за мною трычатыры крокі.— Ты, я бачу, не цэніш дабрыні. Я даў табе шанц... Мабыць, я памыліўся.

— О не, пан інспектар, што вы, я цаню вашу дабрыню,— сказаў я вінавата.— Я хацеў сесці на аўтобус да Арызоны, як вы мне сказалі. Хіба няпраўда? — запытаўся я ў Холідэй.— Хіба мы не збіраліся сесці на аўтобус да Арызоны, як параіў нам інспектар Уэбэр?

Трэба было, каб у запісе абавязкова прагучала ягонае імя — вось тады мы засвецім інспектара як след.

— Вядома, мы так і хацелі зрабіць,— пацвердзіла Холідэй.— Ды толькі грошай не было.

— Вось у чым была замінка,— прадоўжыў я.— Грошай не было. Вы ўсё ў нас узялі. У нас засталося толькі некалькі долараў. Спачатку мне трэба было адшукаць кента, што дапамагаў мне ў налёце на магазін. Ён атрымаў дзве штукі ў сваю долю.

— Гэта за ім цікуюць Прат і Даўні,— сказаў інспектару Рыс.

— І ты яго знайшоў? — спытаўся Уэбэр.

— Знайшоў, пан інспектар. Ён аддаў мне колькі сотняў.

— Колькі сотняў, кажаш?.. Сціплы ты, я гляджу! — бліснуў ён вачыма.— Восемсот долараў, мне здаецца.

— Цяпер, пан інспектар,— зрабіў я здзіўлены выгляд,— я разумею, што калі мне трэба нешта ад вас утаіць, то да гаража Мэйсана лепш не падыходзіць. Цяпер я гэта добра разумею. Але ў якой яшчэ шарашцы мог я зняць машыну? Таму і пайшоў туды...— Я дастаў з кішэні купюры, паклаў іх на калені і пачаў адлічваць па адной.— Вось усё, што я маю. Восемсот долараў. Колькі я магу пакінуць сабе?

— Разумееш...— пачаў ён павольна,— трэба тут і пра іншых падумаць.

— Пра каго? — спытаўся Рыс.

— Пра Даўні з Пратам.

— Чаму гэта? — запярэчыў Рыс.

— Не будзь ідыётам,— абсек яго інспектар.— Яны ў курсе справы. Як ты думаеш, чаму яны дазволілі яму,— кіўнуў ён на мяне,— спакойна ўвайсці ў гараж і выйсці адтуль і не арыштавалі яго?.. Хапае цяпер у аддзяленні панадлівых... — Ён нахіліўся, узяў з маіх рук грошы, пералічыў іх. Потым аддаў мне дзе купюры па дваццаць долараў і адну дзесяцідоларавую.— Вось...

— Пабойцеся Бога, пан інспектар!.. Толькі пяцьдзесят долараў на нас дваіх?

— Сам вінаваты, дурань! Якога чорта ты прысунуўся ў гараж і растрындзеўся там? Я табе сказаў пакінуць горад. На што ты спадзяваўся з гэтымі тыпамі? На іх месцы я тое ж самае зрабіў бы. Да каго яны цяпер прыколюцца, па-твойму? Да цябе ці да мяне?

— Я пра гэта не падумаў,— адказаў я, беручы пяцьдзесят долараў.— Слухайце, чалавек, які дапамагаў мне ў магазіне, жыве тут, у горадзе. Ён казаў мне пра адну справу. Я паўтараю: мы паедзем у Арызону, але — ёсць ідэя... Калі мы пасядзім тут, у гэтай кватэры, да выхаду па справу, а потым возьмем бабкі і адразу ж змыемся, горш не стане?

— Я табе не веру,— сказаў ён.

— Я вас разумею. Але заўсёды павінен быць нехта, каму вы давяраеце. Нам патрэбны хоць бы два чалавекі. Выберыце іх самі. Дваццаць тысяч долараў — гэта нешта значыць. Можа, гэта будзеце вы самі з Рысам, можа, у вас будзе тачка, на якой мы і змыемся. Калі здарыцца якая неспадзяванка, у вас заўсёды ёсць класічнае апраўданне, вы яго цудоўна ведаеце: вас тайна папярэдзілі, і вы прыбылі ўзяць нас на месцы. Галоўны інспектар... вы зможаце выблытацца.

Дагэтуль я толькі падумваў трошкі аб тым, каб залучыць да сябе ў напарнікі выжлаў. Але цяпер я адчуваў, што гэта рэальна. Твар у інспектара быў па-ранейшаму суровы, але вочы крыху акругліліся; ён выразна паглядзеў на калегу, потым зноў на мяне.

— Божа, пра што тут думаць! — усклікнуў я.— Адхопім нарэшце добры кавалак!

Інспектар церабіў вузел свайго гальштука і гэтак утупіўся ў мяне, што можна было падумаць, быццам адказ на пытанне, што хвалявала яго — удасца замах ці праваліцца,— быў напісаны ў мяне на твары. Праз нейкі час ён зноў павярнуўся да Рыса і кіўнуў яму галавою ў бок спальні.

«Выдатна! — узрадаваўся я.— Паны адыходзяць у залу парадаў абгаварыць справу»,— і тут, успомніўшы, што Джынкс хаваецца там у шафе, падумаў, што інспектар паклікаў Рыса ў спальню зусім не дзеля таго, каб параіцца, але каб пачаць вобыск, бо займеў падазрэнні, і нічога дзіўнага тут няма. У прынцыпе, не ў звычаі ў басякоў рабіць такія прапановы галоўным інспектарам паліцыі.

Раптам мяне аж холадам абдала. Па дыханні Холідэй, якая сядзела на другім канцы канапы, я адчуў, што яна спацела ад страху. Рыс адчыніў дзверы спальні, і тут я скеміў, што трэба папярэдзіць Джынкса: у спальню ўваходзяць не я, не Холідэй, а паліцэйскія.

— Пан інспектар! — сказаў я. Ён спыніўся.— Выбачайце за беспарадак у спальні. Пакаёўка яшчэ не прыходзіла.

Яны ўвайшлі ў спальню і зачынілі за сабою дзверы.

«Божа літасцівы! — падумаў я.— Толькі б гэты ідыёт зачыніў дзверы ў шафу так, як я яму сказаў, і сядзеў ціха, як мыш пад венікам».

Я прыслухаўся. Чуваць было адно экскаватар на вуліцы. Са спальні — ані гуку. Калі што і магло здарыцца, дык пэўна ўжо здарылася б. Калі б яны абшуквалі пакой, дык знайшлі б ужо Джынкса. І не магло так стацца, каб яны знайшлі яго, а я нічога не пачуў. Патроху я ачомаўся. Калі інспектар з Рысам вярнуліся, я ўсміхнуўся Холідэй.

— Што вы збіраецеся ставіць? — спытаўся інспектар.

Я ўгледзеўся ў ягоны твар: ніякага падазрэння, поўны давер.

— Не ведаю, пан інспектар,— зусім супакоіўшыся, адказаў я.— Кент выгледзеў.

— А дзе ён цяпер, твой кент?

— Таксама не ведаю. Але звязацца з ім можна.

Рыс наблізіўся да мяне. Выйшаўшы са спальні, ён яшчэ ні разу не зірнуў на Холідэй. Думкі яго нарэшце прыўзняліся над рамянём.

— А калі вы збіраецеся гэта рабіць?— спытаўся ён.

— Мы яшчэ пра гэта не гаварылі. Кент усё абдумаў. Ён толькі сказаў мне, што ўсё павінна быць у ажуры. У дэталі ён не ўваходзіў.

Рыс паглядзеў на інспектара, той — на мяне.

— Ты ўпэўнены, што зможаш знайсці яго да заўтра?

— Вядома, упэўнены.

— Тады патэлефануй мне заўтра ў цэнтральнае бюро. Калі мяне там не будзе, скажы, што звоніць пан Бэйкэр. Я зразумею.

— Добра, пан інспектар... Пан Бэйкэр... Але скажыце: а што калі Мэйсан прывядзе сюды гэтых, што ў гаражы — Прата і Даўні? Што мне тады рабіць?

— Можаш не турбавацца. Выцягвай з нары свайго сябра.

— Добра, пан інспектар.

Ён павярнуўся, пайшоў да дзвярэй, потым раптам спыніўся і спапяліў Рыса позіркам. Той утупіўся ў Холідэй, ледзь зубамі не рыпеў. Ён нават не зразумеў, што наша размова скончылася. Выдаваў ён на самага сапраўднага крэціна...

— Калі ты скончыш, Джордж...— спакойна пачаў інспектар.

Рыс падскочыў, як хлопчык, заспеты за шкодаю.

— Я ўжо! — замармытаў ён.— Я скончыў, скончыў...

Інспектар паціснуў плячыма і пайшоў да дзвярэй, услед за ім — Рыс. Выйшлі яны, не азірнуўшыся. Устаўшы з канапы, я на дыбачках падкраўся да дзвярэй, упэўніўся, што яны добра зачынены, затым лёг на жывот, вухам да падлогі, і пачуў аддаленыя крокі паліцэйскіх у калідоры. Калі іх не стала чуваць, я ўзняўся і прайшоў разам з Холідэй у спальню, да шафы.

— Джынкс! — ціха сказаў я.

Ён адчыніў дзверцы.

— Ты ўсё запісаў? Апарт працаваў нармальна?

— Нармальна, але наступным разам трэба быць больш асцярожлівым. А што гэта за справа, пра якую ты ім казаў? Я нічога такога не ведаю. Нічога ў мяне на прыкмеце няма.

— Гэта, каб зацікавіць іх. Каб яны яшчэ раз сюды завіталі — вось і ўсё. А зараз паслухаем запіс.

## V ЧАСТКА

— Не! — умяшалася раптам Холідэй.— Яны яшчэ могуць вярнуцца!

— Супакойся,— перапыніў я яе.

Яна села побач з намі. Выгляд у яе быў неспакойны, нават вусны дрыжэлі.

— Слухай, я табе ўжо казаў, што ты за дзяўчына? — раззлаваўся я.— Часам такі шорах наводзіш, а то млееш ад страху. Ды перастань ты нарэшце!..

. О Божа, Божа...— замармытала яна.

*(Працяг будзе).*

